Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 37. Вільня, 3 сьнежня 1927 году. Год I.



# ...рускі дзень

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Паважны гістарычны крок.

*Як стварыўся Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх земляў.*

Яшчэ ў суботу вечарам пачалі зьяжджацца дэлегаты з розных куткоў краю, пераважна сяляне. Сярод іх і бышыя вызваленцы, і прыхільнікі „Сялянскае Партыі", і сябры „Саюзу дробных земляробаў", і дэлегаты нашае „Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі". Большасьць гэтых дэлегатаў сярмяжнікаў — беларусы. Гутаркі толькі аб адным — аб зьездзе 27 лістапада, на які павінны зыйсьціся ўсе зьезды і конфэрэнцыі.

У нядзелю 27 лістапада каля 12 гадзіны ў салі Крэнгеля на Людвісарскай вуліцы сабраліся бышыя вызваленцы і сябры „Сялянскае Партыі".

Аднача сна з гэтым на вуліцы Ціхай, у рэдакцыі „Беларускага Дня", адбывалася нарада сяброў надзвычайнай конфэрэнцыі Б. Р. Н. П., а на Нікадэмскай вуліцы зьезд „Саюзу дробных земляробаў".

У Салі Крэнгеля на зьездзе з дакладам аб патрэбнасьці злучэньня ўсіх у адзін Краёвы Народны Саюз выступілі гр. Вендзягольскі і гр. Рачкевіч, адзін з правадыроў б. „Вызваленьня". Апошні востра скрытыкаваў цэнтралістычную палітыку „Вызваленьня" і іншых народных польскіх партыяў, якая прывяла да вельмі смутных і згубных вынікаў, і заклікаў усіх да стварэньня агульнага Краёвага Саюзу мясцовых сялян бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі.

На прапазыцыю гр. Рачкевіча, які быў старшынёю злучанага зьезду б. Вызваленцаў і Сялянскае Партыі, — былі выбраны дзьве дэлегацыі: адна з іх накіравалася на Ціхую вуліцу, дзе вяла нараду Б. Р. Н. П., а другая на зьезд дробных земляробаў.

А гадзіне першай дэлегаты Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі, прыняўшыя перад гэтым рэзалюцыю аб уступленьні ў агульны народны саюз, накіраваліся на Людвісарскую вуліцу і на чале з п. Умястоўскім зьявіліся на зьезд б. Вызваленцаў і Сялянскае Партыі. Уваход дэлегатаў Б. Р. Н. П. прысутныя на салі спаткалі гучнымі воплескамі і крыкамі „Няхай жыве Беларускі Народ"!

У адказ на гэтыя прывітаньні — сябры Б. Р. Н. П. — узьнясьлі кліч: „Няхай жыве братэрства народаў", падхоплены ўсёю саляю і пакрыты магутным „ура".

Пачаліся прывітаньні. Ад б. вызваленцаў у беларускай мове прывітаў Б. Р. Н. П. грамадзянін Жукоўскі, які выказаў сваю радасьць з таго, што ў радох Краёвага Народнага Саюзу будуць і беларусы, якія складаюць найбольшы процант жыхарства літоўска-беларускіх земляў.

У адказ на слова Жукоўскага выступілі ад Б. Р. Н. П. гр. Умястоўскі і Цяўлоўскі, якія ў гарачых прамовах заклікалі ўсіх сялян да лучнасьці. Прамовы Умястоўскага і Цяўлоўскага нераз прарываліся гучнымі воплескамі і крыкамі „брава!" Нарэшце, каля гадзіны другое зьявіўся на зьезд і „Саюз Дробных Гаспадароў", на чале з грамадзянінам Гэльманам. Саля была перапоўнена і адчуваўся праўдзівы і шчыры энтузіязм і радасьць у зьвязку са злучэньнем усіх сялян у адну сям'ю.

На прапазыцыю гр. Рачкевіча — старшынёю супольнага зьезду выбіраецца пад гучныя воплескі ўсяе салі стары краёвец і дэмакрат адвакат Абрамовіч, які выступіў да ўсяго зьезду з гарачаю прамовай.

— Ідэя злучэньня ўсіх народаў нашага краю ня новая ідэя, — казаў ён. — Яшчэ перад вайною пад крывавым урадам царызму палякі, беларусы і ліцьвіны лучыліся і разам змагаліся з гвалтам і ўціскам рэакцыі, і тое, што не ўдалося цару і маскоўскім урадам, падбіваючым адзін народ процiў другога, што не ўдалося потым немцам,

тое зрабілі шовіністыя, каторыя штучна прышчапілі масам ненавісьць, і гэтая ненавісьць выявілася, галоўным чынам, на полі культурна-асьветным. Ня можа быць розьніцы паміж палякам, беларусам і ліцьвіном! Кожныя маюць права на асьвету і школу ў роднай мове. Досыць ужо ўціску над беларусамі, якія павінны мець усё, што ім належыць, і разьвіваць сваю культуру.

Апошнія словы былі пакрыты гучнымі воплескамі і крыкамі: „брава! Няхай жыве беларуская школа!“.

— Перад вайной разам з прысутным тут старшынёю „Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі“ Ф. Умястоўскім,—казаў далей гр. Абрамовіч,— змагаліся мы з царскімі ўрадамі. Ня было а ніякіх нацыянальных спрэчак. Былі толькі сыны аднае зямлі. І сягоньня ізноў адраджаецца тое, што было. Сягоньня вялікае сьвята злучэньня. Спраўдзіліся словы і ідэя Каліноўскага: „Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі!“ У знак гэтае братэрскае лучнасьці гр. Абрамовіч моцна сьціскае руку гр. Умястоўскага і цалуецца з ім. Гучныя воплескі ўсяе салі і крыкі: „Няхай жыве братэрства!“ — найвыразьней сьведчылі аб настроях зьезду, парушанага гэтаю сымболічнаю мінутаю братэрства.

Як толькі скончыліся прывітаньні і пачалася дзелавая праца зьезду, некаторыя асобы, працісьнуўшыся на зьезд з мэтамі правакацыйнымі, каб сарваць народную лучнасьць, хацелі выклікамі зьбіць сялян з толку, але гэта не ўдалося. Аднагалосна была прынята адозва „Да Народаў Краю“— і ў канцы была выбрана Рада Краёвага Народнага Саюзу з 25 чалавек, а старшынёю Саюзу выбраны гр. Абрамовіч.

Беларуская Радыкальная Народная Партыя дэлегавала ў гэтую раду 10 сваіх прадстаўнікоў: Умястоўскага, Цяўлоўскага, Канчука, Тарыкова, Жаўнэркевіча, Душэўскага, Зянюка, Адамовіча, Шпігановіча і Казюкевіча.

**Паседжаньне Рады Краёвага Народнага Саюзу.**

На другі дзень, а 5-ай гадзіне ўвечары адбылося першае паседжаньне Рады, на якім выбраны выканаўчы камітэт з сямёх асобаў: гр. гр. Абрамовіча, Вэнцковіча, Умястоўскага; Зянюка, Рачкевіча, Вензягольскага і Мікулоўскага; старшынёю Камітэту застаўся выбраны на зьездзе гр. Абрамовіч, а віцэ-старшынёю гр. Умястоўскі, скарбнікам Вэнцкевіч, сакратаром Рачкевіч.

На гэтым тыдні Краёвы Народны Саюз прыступіць да працы.

---

## З жыцьця Бел. Радык. Народ. Партыі.

27 лістапада г. г. адбылася другая конфэрэнцыя Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі. Конфэрэнцыя вырашыла справу агульнага краёвага фронту ўсіх народнасьцяў, засяляючых наш край, якія таксама, як і беларусы, жадаюць узяць кіраўніцтва лёсаў краю ў свае ўласныя рукі, пазнаўшы, што чужыя па духу і неразумеючыя нас людзі, ня могуць палепшыць жыцьця і долі Літоўска-Беларускіх земляў.

Конфэрэнцыя прызнала, што дамаганьне аўтаноміі для нашага Краю зьяўляецца важным заданьнем партыі, якая ня можа адкінуць супрацоўніцтва з другімі краёвымі палітычнымі групамі, якія якраз дамагаюцца выдзяленьня Літоўска-Беларускіх земляў у аўтаномную провінцыю з Соймам у Вільні.

Вырашэньне зямельнага пытаньня, спыненьня асадніцтва, надзяленьне зямлёю малазямельнага сялянства можа быць зьдзейсьнена толькі тады, калі інтарэсы мясцовага сялянства будуць ставіцца на чало заданьняў краёвае народнае арганізацыі.

Дзеля залегалізаваньня справы беларускага культурнага адраджэньня, дзеля магчымасьці

---

# Дзень пераломy.

*(Думкі са зъезду 27 лістапада).*

Мінуты, калі чалавек перажываець найвышэйшую радасьць і найвышэйшае задаваленьне, якое выпадаець яму на долю, ніколі не забываюцца і пакідаюць глыбокі сьлед у памяці.

Як прамень сонца, гэтыя мінуты, асьвятляюць яму ўвесь далейшы шлях, цярністы шлях жыцьця.

Такія мінуты, мінуты пералому здараюцца ня з кожным чалавекам. Найчасьцей яны бываюць у людзей неспакойных, у людзей, якія шукаюць, упарта шукаюць праўды. І калі гэтая праўда знойдзена, чалавек як-бы нараджаецца другі раз на сьвет. У душы і сэрцы нараджаюцца новыя думкі і імкненьні. Наагул усё жыцьцё чалавека становіцца нейкім новым, аднаўляецца.

У жыцьці грамадзянства, ў жыцьці народу так сама бываюць такія моманты пералому, такія дні нараджэньня новых думак, новых чынаў, якіх ня можа забыць народ, такія дні, сьлед ад якіх застаецца не на адно дзесяцьгодзьдзе, а на цэлую эпоху. Гэта гістарычныя дні, ад якіх пачынаецца альбо ўпадак, альбо адраджэньне.

* * *

Польшча, тая сучасная Польшча, ў якой дзякуючы глыбокім гістарычным прычынам шовінізм яшчэ так нядаўна спраўляў дзікі боль, у якой і сяньня гэты шовінізм даець адчуваць сябе на кожным кроку—і ўладаець і труціць душу і сэрца народаў, гэтая самая Польшча, якая мела і мае столькі ворагаў, ходам грамадзкіх падзеяў, самаю лёгкаю рэчаў—не магла не нарадзіць у нетрах народных пратэсту і абурэньня, проціў шовінізму.

І вось на нашых вачох уздымаецца хваля, якая захапляець сотні і тысячы людзей і гатова разьліцца, як мора, і абмыць змучаную народную душу. Пачынаецца новая эпоха — *эпоха контршовінізму.*

* * *

Дзень 27 лістапада 1927 г., калі ў Вільні першы раз за 8 гадоў прагучэла магутнае слова *братэрства народаў* нашага краю, бяз сумліву зьяўляецца днём *пераломным*—тым першым праменем узыходзячага сонца адраджэньня, якога прагнуць народныя масы.

Яшчэ ўчора насіцелі гэтае сьветлае ідэі братэрства і лучнасьці народнае былі адзінокімі

падняць эканамічны дабрабыт беларускага працоўнага сялянства, якое, дзякуючы неразумнай тактыцы беларускіх палітычных групаў, дагэтуль нічога для сябе не здабыло і застаецца ў нэндзы, Конфэрэнцыя Б. Р. Н. Партыі прызнала за неабходнае прыступіць да Краёвага Народнага Саюзу, каб з большым пасьпехам і інтэсыўнасьцяй праводзіць мэты і заданьні партыі.

Краёвы Народны Саюз Літоўска-беларускіх земляў, выкінуўшы лёзунгі — ўся зямля мясцоваму працоўнаму сялянству, урадовыя становішчы для мясцовае інтэлігэнцыі, згоднае сужыцьцё ўсіх народаў нашага краю, дзяржаўная школа ў роднай мове, пашана для кожнае нацыянальнасьці нашага краю, — зьяўляецца якраз тою палітычнаю арганізацыяю, якая можа памагчы Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі згуртаваць увесь працоўны Беларускі Народ пад сьцягам партыі і вывясьці яго з бяды і нэндзы, у якой апынуўся цяпер.

Маючы ўсё гэта на мэце, конфэрэнцыя Б. Р. Н. Партыі 27.XI г. г. вынясла пастанову, аб прылучэньні Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі да Краёвага Народнага Саюзу Літоўска-Беларускіх земляў.

---

## Наша праграма:

1) **Краёвая Народная Улада.**
2) **Зямля — мясцоваму сялянству.**
3) **Асьвета ў роднай мове.**
4) **Гаспадарчае адраджэньне.**
5) **Братэрства Народаў.**

---

## Ад Прэзыдыуму Выканаўчага Камітэту Бел. Радыкальнай Народ. Партыі.

1) Выканаўчы Камітэт на паседжаньні 28-га лістапада пастанавіў, каб кожны сябра Б.Р.Н.П., аплачваў сяброўскую месячную складку, велічыню якой ён павінен назначыць сам, залежна ад свайго матар'яльнага стану. Аднак складка гэная ня можа быць меншай як 10 (дзесяць) грашоў у месяц.

У сувязі з гэнай пастановай старшыням вясковых хаўрусоў даручаецца зрабіць пісьменны сьпіс сяброў хаўрусу, выпісаўшы ў асобнай графе велічыню месячнай складкі кожнага сябры. Цыфру гэную сябра павінен пацьвярдзіць сваім подпісам.

Сьпісак гэны, які найлепей вясьці ў асобным сшытку, павінен выглядаць гэтак:

| № папарад. | Імя і прозьвішча | Колькі абавяз. плаціць у месяц | Подпіс сябры | Заплаціў за месяц | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | сьнеж. | студз. | люты | і г. д. |
| | | | | | | | |

У гэным самым сшытку старшыня ці скарбнік у наступных графах упісвае складку, аплачаную за кожны паасобны месяц.

На якія патрэбы выдаваць гэныя грошы, вырашае альбо агульны сход хаўрусу, альбо толькі ўрад хаўрусу.

---

людзьмі, былі тымі, голасу якіх ня можна было пачуць. Дзікія гукі зьвярынага шовіністычнага рогату заглушалі іх.

А сяньня?! Хваля народная выносіць іх наверх, ставіць іх ля самага кіруна грамадзкасьці. Учора адзінокія пустыньнікі, сягоньня разам з народам трыумфуюць перамогу сваю. Ці-ж не характарным, добрым знакам для нашае будучыны зьяўляецца гэты дзень 27 лістапада, калі ў Вільні, ў гэтай пасівеўшай сталіцы нашага літоўска-беларускага краю і беларусы, і палякі, і літоўцы, уся сярмяжная земляробская раць наша падала друг другу братнія рукі.

Ці-ж не сымбалічным знакам быў братэрскі пацалунак *старога барацьбіта за вольнасьць Краю паляка Абрамовіча з такім-жа старым беларускім адраджэнцам слаўным рэдактарам „Нашае Долі“ Ф. Умястоўскім?*

Гэта была толькі адна хвіля, толькі адзін момант гістарычнага Зьезду, але гэтая хвіля, як промень гарачы, прабіла і каменныя сэрцы, растапіўшы лёд іх.

Бурная радасьць прарвалася, як прарываецца вясною вада праз крыгі, і захапіла сабою нашага гаротнага змучанага селяніна.

— Няма ўжо сягоньня ні беларуса, ні паляка, ні ліцьвіна, якія з пада лба пазіраюць адзін на другога і гатовы перагрызьці адзін аднаму горла.

Ёсьць браты! Ёсьць сыны роднага краю! Ёсьць сіла! Вялікая творчая сіла!

І гора тым, хто не разумеець і не адчуваець гэтае хвілі пераломў. Гора тым, хто прадаець братэрства за даляры і чырвонцы. Гора тым, хто станець на дарозе народнай хвалі.

Шовінізм, як цёмная ноч, страшыць чалавека. Як чад, труціць сьветлы розум і абцугамі скоўваець душу і сэрца.

Братэрства, як сонца,—вечнае і, як сонца, радуе людзей. І гора тым, хто ня можа пабачыць і адчуць гэтага сонца.

* * *

Глыбока западзе ў душу народаў нашага змучанага краю дзень 27 лістапада, дзень нараджэньня братэрства. Ніякія пякельныя сілы ня стрымаюць тае хвалі, якая ўзьнялася і якая пачынаець новы, сьветлы дзень, новую эпоху контршовінізму, эпоху дружнага супрацоўніцтва ўсіх творчых сілаў краю—эпоху адраджэньня.

*Я. Долін.*

Вільня 28 лістапада 1927 г.

Сяброўскія складкі пайдуць на патрэбы хаўрусу, як напрыклад: на выпіску газэт, на куплю кніжак, на паштовыя расходы, на разьезды упаўнамочаных хаўрусу і г. д.

Складкі гэныя зьбірае старшыня хаўрусу, альбо скарбнік, дзе ён выбраны.

2) Хаўрусы ў вёсках павінны выбраць сабе адну хату, у якой будзе памяшчацца канцэлярыя хаўрусу. Знадворку гэнае хаты павінен быць вывешаны надпіс гэткага зьместу: „Хаўрус Беларускай Радыкальнай Народнай Партыі".

У гэнай хаце ня менш аднаго разу у тыдзень сябры вясковага хаўрусу павінны зьбірацца і чытаць „Беларускі Дзень", знаёміцца з распараджэньнямі Выканаўчага Камітэту партыі і яго Прэзыдыуму і абгаварваць спосабы выкананьня гэтых распараджэньняў. Таксама на гэтых сходах сябры хаўрусу павінны абгаварваць культурныя і гаспадарчыя патрэбы свае вёскі, аб непаразуменьнях, якія магчымы паміж мясцовай уладай і аб крыўдах сваіх.

Аб вынесеных пастановах зараз трэба сьпісаць пратакол, копію якога старшыня прышле ў Прэзыдыум Выканаўчага Камітэту партыі ў Вільні. Партыя будзе рупіцца аб спыненьні гэных крыўдаў і непаразуменьняў, і будзе бараніць сваіх сяброў і перад уладай і ўсюды, дзе толькі сягаюць уплывы партыі і даваць парады, як наладзіць жыцьцё вескі.

Адначасна Вык. Камітэт вымагае ад хаўрусоў, каб у жальбах сваіх пісалі толькі *адну шчырую праўду*, без ўсялякіх прыкрасаў, каб ніхто ня меў права сказаць, што хаўрус Б. Р. Н. Партыі набрахаў што-небудзь, бо толькі ў гэткіх варунках справа заступніцтва выканаўчых органаў партыі будзе даваць позытыўныя рэзультаты.

## Прадстаўніцтва Б. Р. Н. П. на мясцох.

Прадстаўнікамі Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі на мясцох зьяўляюцца наступныя сябры Выканаўчага Камітэту, да якіх можна зьвяртацца ў справах арганізацыйных:

1. Мікалай Адамовіч — Горадна, Пушкінская вуліца 15.
2. Міхась Косьцевіч — в. Баброўня, Горадзенскага пав., Скідзельскае валасьці.
3. Фэлікс Цялуоўскі — Баранавічы, Сасновая вул. 25.
4. Янка Дэшкоўскі — в. Пенховічы, Наваградзкага пав., Моўчадзкае валасьці.
5. Янка Тарыкаў, в. Ізабелін, Дзісьненскага пав., Лужэкае вол.
6. Міхась Канчук — м. Любча, Наваградзкага пав.

Выканаўчы Камітэт выпусьціў асновы праграмы партыі, якія разасланы разам з № 34 „Беларускага Дня".

Арганізацыя хаўрусоў партыі на месцах ужо пачалася.

Да арганізацыі хаўрусоў партыі прыступайце гэтак:

Калі ў вёсцы знойдзецца прыхільнік і спагадчык нашае партыі, хай ён прыдбае сабе як найбольш аднадумцаў, якія-б прынялі асновы нашае праграмы. 3-х такіх аднадумцаў могуць залажыць вясковы хаўрус Б. Р. Н. Партыі, сабраўшыся разам і сьпісаўшы аб гэтым пратакол такога зьместу:

# Марш.

Сьмела пад сьцягам Пагоні,
Брацьця, сягаем ўпярод!
Родныя клічуць нас гоні,
Хто-ж устрымае наш ход?

Досыць чужынцаў навала,
Мучыла родны наш край,
Досыць ужо нас таптала...
Гэй! Хто жывы паўставай!

Дружна працоўнай рукою
Новы праложыма шлях,
І панад роднай зямлёю,
Горда ўзаўецца наш сьцяг.

Дык ў каго сэрца агніста
Б'ецца ў магутных грудзёх,
Пойдзем да волі ўсе чыста,
Пойдзем, хто крыўды ня змог!

За срыбнаю ценьню Пагоні
Ўвесь Беларускі Народ,
Родныя клічуць нас гоні,
Хто-ж устрымае наш ход?

*Вітэблянін.*

## ПРАТАКОЛ.

„Мы (імёны і прозьвішчы), сяляне вёскі (назоў вёскі), разглядзеўшы асновы праграмы Беларускае Радыкальнае Народнае Партыі прыступаем да гэнае партыі і творым вясковы хаўрус Б. Р. Н. Партыі ў складзе (выпісаць імёны і прозьвішчы ўсіх, хто захоча належаць і прыйдзе на зборку). Да Рады хаўрусу выбіраем: за старшыню, (імя і прозьвішча), за пісара (імя і прозьвішча) Дня . . . лістапада 1927 г. (Подпісы ўсіх прысутных на зборцы, за няграматных падпісваюць граматныя).

Пратакол гэны зараз-жа трэба пераслаць у Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. Партыі (Вільня, Ціхая вул. № 4, кв. 20). Кожная вёска можа мець толькі адзін хаўрус Б. Р. Н. Партыі.

Калі ў вёсцы знойдзецца толькі адзін, ці два прыхільнікі Б. Р. Н. Партыі, дык хай яны злучацца з такімі-ж прыхільнікамі з другое вёскі і супольна ўтвораць хаўрус.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Б. Р. Н. Партыі аб'яўляе ўсім сваім сябром, што прыналежнасьць да гэнае партыі ня можа прасьледавацца ўладамі дзеля таго, што Б. Р. Н. Партыя вядзе сваю працу ў межах істнуючых законаў.

## Уся зямля — мясцоваму працоунаму сялянству.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Як выбраць добрага каня.

(Гл. № 36 „Бел. Дня").

### Падрабязны агляд каня.

Пазнаўшы па зубох гады, калі конь не стары, пераходзім да падрабязнага агляду часьцей яго цела, каб пераканацца ў здароўі, сіле і ўдаласьці каня. Агляд пачынаем з галавы.

**Галава** павінна быць ні занадта малая, ні занадта вялікая, цяжкая. Коні, якія маюць малую галаву, часта бываюць слабыя на ногі. Даўжыня галавы павінна быць у два з палавінай (дапушчальна $2^3/_4$) разы меней, чым рост каня, мерачы яго ад карку да зямлі. Пры гэткай нармальнай велічыні, галава павінна быць досыць шырокай з высокім лобам і шырокім пераносьсем. Галава павінна быць сухашчавая, каб косьці чарапоў, а так сама і ўсе жылы на галаве былі выразна заметны. (гл. рыс. 4).



Рыс. 4.

**Санкі** павінны быць шырокія. Чым шырэй санкі, тым вальней ляжыць паміж іх горла, і пры цяжкой рабоце каню лягчэй дыхаць. Конь з шырокімі санкамі ў гаспадароў лічыцца болей ешчым.

**Вушы** ў здаровых разьвітых коняй бываюць „жывыя", сярэдняй велічыні і стаяць наперад. У лянівых (убоістых) коняй вушы найчасьцей бываюць доўгія, тоўстыя і абвіслыя ўніз. Абвіслыя вушы бываюць і ў старых коняй, а таксама і маладых крэпка замучаных працай, падарваных.

**Вочы** ў здаровага каня павінны быць прыгожымі, вялікімі, зрэнкі чыстыя без бяльма. Маленькія—сьвіныя—вочы спатыкаюцца найчасьцей у лянівых коняй; падсьлепаватыя вочы, прыкрытыя павекамі, бываюць у пуджлівых коняй; — надта вялікія—бычачыя—вочы, якія сядзяць наверсе, сьведчаць аб тым, што конь маець паніку: далёка ня бачыць. Аглядаючы вочы трэба пераканацца, ці не сьляпы часам гэты конь? Для гэтага трэба стаць насупраць галавы каня і, ўдарыўшы някрэпка яму па пераносьсі, хутка падняць руку напроціў вока. Конь будзе спадзявацца, што яго ўдарыць па воку, а дзеля гэтага, калі ён несьляпы, дык зараз яго заплюшчыць, убачыўшы руку. Махаць пальцамі каля вачэй, як гэта ў нас робяць, ня трэба, бо гэткім спосабам трудна пераканацца, бачыць конь ці не? Ад маханьня пальцамі (ды яшчэ калі махаць крэпка), будзе заўсёды вецер, які адчувае конь, а дзеля гэтага, калі ён навет будзе і сьляпы, дык усё роўна будзе плюскаць вачмі. Сьляпога каня можна яшчэ пазнаць па гэтым: пры ходцы высока падымаець пярэднія ногі, ступаець асьцярожна, галаву трымаець высока і стрыжэць вушамі. Калі пусьціць яго на волю, дык ён будзе перад сабой усё абнюхваць. Зрэнкі вачэй павінны быць чыстымі без бяльма.

**Храпы** (ноздры) ў коняй бываюць вузкія і шырокія. Чым шырэй храпы, тым конь маець магчымасьць болей захватваць паветра, а дзеля гэтага шырокія храпы лепей, чым вузкія. Трэба толькі мець на ўвазе, што храпы могуць быць раздутыя ад хваробы ў лёгкіх або ў носе. Калі ноздры надта шырокія і пры гэтым конь імі часта чыхаець, то ёсьць падстава думаць, што ў каня дыхавіца і яго купляць ня трэба. У здаровага каня ў сярэдзіне храпы павінны быць гладкія, чыстыя, бяз ранак і струпоў. Соплі ў носе (іх не павінна быць шмат) у здаровага каня сьветлыя бяз гною і паху. Паветра, што выходзіць з носа ў каня, павінна быць бяз паху; дыхаць носам конь павінен бяз шуму і сьвісту. Густая, ліпкая і сьмярдзючая сьлізь з носа, а таксама струпы і раны ў храпах сьведчаць аб тым, што конь хворы. Гэткіх коняй трэба асьцерагацца, бо хваробу яны могуць даць і чалавеку (напрыкл., насацізну). Каб пазнаць, што нос чысты, трэба сьціснуць каня за храпы, каб ён порснуў, або сьціснуць за горла, каб конь стаў кашляць, тады затычка з носа выскачыць, а за ёю пацячэць гной. Трэба асьцерагацца толькі, каб конь не абрызгаў гэтым гноем, які можа заразіць чалавека.

**Залозы** (мышкі) пад санкамі і каля вушэй у здаровага каня бываюць невялікія, так што падчас іх трудна бываець і ашчупаць. Калі ў каня ёсьць заразныя хваробы: залзы, насацізна, гніеньне зубоў, дык залозы апухаюць, робяцца вялікімі і нарываюць. Пры насацізьне пухліна пад санкамі перш бываець мяккая як цеста, балючая, далей гузак робіцца цьвёрдым, няроўным і зусім для каня небалючым, прырастаець да аднаго боку санак або зрастаецца з скурай. Пры залзах пухліна бываець пасярод санак (пад барадой), не прырастаець да санак ці скуры, як пры насацізьне і заўсёды бываець надта для каня балючай. Зялезьніца або залзы бываюць найчасьцей у маладых коняй; хваробу гэту, калі не застудзіць, можна вылячыць. Насацізну нічым вылячыць ня можна, дзеля гэтага трэба асьцерагацца, каб ня купіць „насатага" каня.

**Лупы** не павінны быць адвіслыя. Такія лупы бываюць у коняй старых, спрацованых, і лянівых.

**Зубы.** Пры ўгадваньні гадоў каня мы мелі дачыненьне толькі з пярэднімі зубамі, якімі конь толькі хватаець корм, а самае жаваньне корму робіцца кутнікамі. З гэтага можна зразумець, якую важную ролю іграюць у здароўі жывёлы кутнія зубы. Калі ўсе кутнія зубы будуць здаровыя, нармальныя, корм будзе перажоўвацца дасканальна і наадварот, пры хворых зубох, конь корм жуець з вялікім трудом, нават часьць неперажованага корму вывальваецца зусім з рота. А раз жаваньне корму ў роце няправільнае і ператраўленьне яго ў вантробах таксама ня будзе нармальным. У гэткім разе, як ты каня ні кармі, а заўсёды ён будзе худы і слабы. Дзеля гэтага, пры аглядзе каня немагчыма не зьвярнуць увагі на кутнія зубы. Галоўнейшыя вады кутніх зубоў гэткія: косыя зубы бываюць ад няправільнага і нероўнамернага зьяданьня іх: зубы больш зьядаюцца ў даўжыню, чым у шырыню, і пры гэтым

наўскось зьнізу ўверх, так што на верхніх зубох ад шчакі, а на ніжніх з сярэдзіны застаюцца вострыя берагі, як нож ці шыла. Гэтымі вострымі краямі конь заядаець сабе шчокі, язык і апрача гэтага косыя зубы перашкаджаюць каню жаваць корм. Конь бярэць корму патроху, жуець яго марудна і часта корм вывальваецца з рота. Пазнаць косыя зубы ў каня досыць лёгка. Для гэтага варта засунуць палец каню ў рот, паміж шчакі і зубоў. Косыя зубы сваімі вострымі краямі будуць калоць палец. Разьняўшы каню шырока рот можна добра разглядзець яго зубы, косыя яны ці не. Калі ў каня ёсьць раны на шчацэ процiў зубоў, то ўжо можна спадзявацца, што ў каня зубы косыя. Хоць косыя зубы рашпілем можна выраўняць, але купляць каня з гэткімі зубамі мы ня радзім, дзеля таго, што навет пасьля выраўнаньня, зубы ўсё роўна будуць зьядацца наўкось. Конь з косымі зубамі заўсёды бывае худы, з падведзенымі бакамі.

**Шчарбатыя і дзіравыя зубы.** Калі разьняць каню шырока рот, то пры балючых зубах паміж імі і дзяснамі можна бачыць залезшы корм праціўнага паху. Пры лёгкім удары з балючага боку ці ад націсканьня пальцам супроць балючага зуба, конь пачынаець матаць галавой. З гэткімі зубамі конь надта дрэнна жуець корм, які выходзіць з калам не ператраўлены (асабліва авёс). Есьць конь надта марудна з доўгімі аддухамі, або хватаець корм адразу вялікім шматам, а пасьля выкідваець яго з рота; іншы раз жуець толькі на адну старану зубоў.

**Дварадныя зубы** бываюць у маладых коняй, у тых выпадках, калі малочныя зубы яшчэ ня вываліліся, а сталыя зубы ўжо прарэзаліся. Ад гэтага сталыя зубы пачынаюць расьці ў бок, коса, або сьціскаюць малочнікі і тады выходзіць два рады зубоў. Дварадныя зубы неяк лічыць вялікім бракам, толькі трэба малочнікі, калі яны самі ў пару ня вываляцца, вырваць, што зрабіць лёгка самому.

*Янка Пачопка.*

(Працяг будзе).

---

## Як даглядаць цяляты.

Выхаваньне цяляці ў першыя месяцы яго жыцьця, вымагае вялікае апекі, бо арганізм тады яшчэ зусім слабы, у гэны час найлягчэй яго могуць апанаваць шкадлівыя бактэрыі, што нясуць розныя хваробы. Для навароджанага цяляці неабходна першае малако яго маткі — малодзіва. Пасьля цяленьня, у працягу некалькіх дзён, карова дае малако зусім іншае якасьці, якое з часам пераходзіць у звычайнае. Малодзіва розьніцца ад звычайнага малака галоўна тым, што мае ў сабе шмат больш жыру і бялкоў (альбуміну) і мае тую асаблівасьць, што чысьціць кішкі цяляці ад калу і сьлізу. Неачышчаны, у хуткім часе пасьля пароду, жывот ад гэтага калу і сьлізу ня можа нармальна працаваць і цяля гіне ад завалу.

Малодзіва даюць цяляці зараз-жа, як карова ацеліцца; спачатку пакрысе, пасьля больш, па 5 і 6 разоў у дзень. Распаўсюджаны, галоўным чынам, два спосабы дагляду цялят, і кожны з іх мае сваіх прыхільнікаў. Адны кажуць, што лепш цяля пакідаць спачатку пры матцы, бо гэта ёсьць прыродны спосаб, які, апрача таго, вымагае меншага дагляду. Матка чуе сябе спакайнейшаю і больш дае малака. але затое пасьля цяля цяжэй адлучаць. Другі спосаб, гэта калі цяля адразу адлучаецца ад маткі ў асобную перагародку, але такі спосаб вымагае вялікага дагляду. У такім выпадку трэба малако даваць цяляці зараз-жа, як карова падоіцца, бо яно хутка жуецца, ці цяля прыпушчаюць да маткі па некалькі разоў у дзень. Малако не павінна быць халоднае, а амаль што такое цёплае, як было ў вымі. Ня трэба пакідаць малака і пасьля даваць яго падагрэтым, бо цяжка ў такім выпадку датрымаць адпаведную тэмпэратуру і малако ўжо будзе не такім сьвежым. Прывучаем цяля піць спачатку „з пальца“ з якой-небудзь пасудзіны, якая мусіць быць зусім чыстая бяз паху. Пасьля кармленьня пасудзіну, з якое кормім, трэба адразу вымываць цёплаю вадою, выціраць насуха і прасушваць. Вымываць лепш вадою гарачаю — абварваць.

Калі цяля трымаецца пры матцы, пры чым карова дае шмат малака, то лішняе малако абавязкова трэба выдойваць.

У першыя дні няварта даваць піць ці ссаць зашмат, бо можа быць ганячка.

Першы месяц цяляці няварта даваць малака назьбіранага, а тым болей скісшага. Пасьля ўжо па першым месяцы, можна даваць малако і назьбіранае, падагрэтае так, каб яно было так, як паранае, і без дабаўкі вады. Праз шэсьць тыдняў у цёплае пойла з назьбіранага малака можна даваць аўсяную муку, але ня больш, як адну лыжку ў дзень. Праз два ці тры месяцы, гледзячы па сіле цяляці, можна падбаўляць мукі больш, але ня болей, як ад паўфунта (прыбаўляючы ступнёва) да аднаго фунта ў дзень. Пасьля, калі цяля ўжо пасіліцца, калі ўжо возьмецца за сухую пашу, то можна даваць яму і цёплае пойла з вады з атрубамі, ці з аўсянаю мукою і масьлянку. Калі хочуць выгадаваць цяля на плод, то трэба яго паіць нязьбіраным малаком да двух месяцаў, бо малако маткі, гэта найлепшая паша ў першыя тыдні разьвіцьця цяляці. Праз паўтара месяца, пакінутае на плод цяля, паіць малаком, да шасьцёх месяцаў, дадаючы ў пойла аўсянае мукі і цёплае вады; можна даваць малако і ад іншых кароў, але таксама цёплае — паранае. Апрача пойла, можна даваць крыху і найлепшага сена (мурагу) і дробненага ці таўчонага аўса. Пасьля шасьцёх месяцаў цяля трэба карміць добраю сьвежаю пашаю і правідлова, бо ў іншым выпадку, калі схудзеўшае цялё і пачнём пасьля карміць добра, то яно будзе расьці толькі ў вышыню. Добра даглядаць трэба з першых дзён, бо іначай, дрэнна разьвіненае цяля, пасьля і пры добрай пашы, ніколі ня будзе мець такога добрага выгляду, як цяля, якое добра дагледжана з першых дзён жыцьця.

Драбіны на сена ўмяшчаюцца нявысока, бо цяля будзе выцягвацца і папсуе сваю форму.

Ня можна да паўгода даваць канюшыны, саломы, буракоў, бульбы, брагі і г. д. Пасьля 6 месяцаў можна даваць і буракі, але пакрысе, ніколі не забываючы і пра сытую пашу.

У хляве для цяляці павінна быць заўсёды вада, якую трэба 2 разы ў дзень зьмяняць. У жолабе павінна быць соль для лізаньня і ня шкодзіць дадаваць па 10 грамаў у дзень пашнае вапны, каб ляпей расьлі косьці. У хляве заўсё

ды мусіць быць чыста, а зімою, апрача таго, цёпла.

Цялятам можна даваць пойла з льняных ці канапляных жмыхоў у цёплай вадзе, але не раней, як праз два месяцы пасьля ацёлу. Калі пачынаць паіць вельмі рана разьведзеным малаком, то цяля дрэнна расьце і можа паўстаць ганячка, калі-ж малако зашмат густое, то гэта таксама нядобра.

Калі бычкі маюць каля году, то іх трэба трымаць асобна; кастраваць, калі гадуюцца на мяса, што рабіць раней, як у 9 месяцаў ня варта. Цялят ня можна пускаць у стада, найлепш адгарадзіць ім асобную пашу на невялікай траве, прывязваць таксама ня можна, трэба, каб цяляты заўсёды былі ў руху, бо толькі тады косьці могуць адпаведна разьвівацца; таксама ня можна пускаць іх на пашу, калі вялікая раса, мароз, ці дождж. Наагул, цялятам вельмі шкодзіць холад і дождж, асабліва дождж халодны ўвосень.

Ад дажджу трэба сьцерагчы цяляты, заганяючы іх у цёплы хлеў без скразьніку.

Трэба прывучаць цяля да рук, каб было рахманае, а пасьля двух гадоў, прывучаць да даеньня, каб пасьля ацёлу ня білася і прыпушчала цяля. *П.*

---

# Жывёла і адчуваньне ёю пагоды.

Дзеля таго, каб прадугадаць, якая будзе ў найбліжэйшыя дні пагода, людзі маюць розныя інструмэнты—барометры і іншыя, але сам па сабе чалавек далёка мешн адчувае ўсялякую зьмену пагоды. З таго часу, як ён навучыўся насіць цёплую адзежу, курыць тутун, ды выгравацца ў цёплай хаце, чалавеку цяжка орыентавацца ў пераменах пагоды. Затое, хто ўважна сачыў за жыцьцём прыроды і ўсяго жывога, а таксама і расьлін, той напэўна павінен быў заўважыць дужа цікавага ў прыродзе, бо інстынкт жывёлы—цэлая навука ў сувязі з атмосфэрычнымі зьменамі ў прыродзе.

Векавая мудрасьць усяго жывога, як людзей, можа зацікавіць кожнага.

Нам здаецца, што шмат хто гэта заўважыў, што калі ўвосень падчас *баб'яга лета* павуценьне носіцца ў паветры і чапляецца па дзеравах і платох, то гэта пэўны знак, што будзе трывалая і добрая пагода ў працягу колькіх дзён. Вось-жа, калі павуценьне лётае высока над зямлёю — зімою будуць вялікія сьнягі.

Гэтак сама заўважана, — *калі буслы* (Ciconia Briss), прыляцеўшы да нас вясною, маюць выгляд чысты, добры, гэта прадказвае *сухое лета*, калі-ж буслы занадта брудныя, дык пэўная прыкмета, што *лета будзе мокрае*.

Часты клёкат буслоў вясною нагадвае, што настае вельмі цёплая вясна. Перад надходам дажджу, або вялікага ветру, бусел заўсягды акрывае свае дзеці сьцілкаю з гнязда, мохам і г. д. Калі пад восень бусел бродзіць па сенажаці, дык гэта пэўны знак блізкай непагоды.

Калі звычайныя гусі як-бы бяз усялякае прычыны прабуюць свае крыльля і нібы зьбіраюцца ляцець, дык трэба быць пэўным, што надходзіць бура, таксама, калі гусі падымаюць нязносны крык бяз прычыны, будзе доўга непагода. Калі яны ганяюцца зранку па вадзе, крычаць і б'юць крыльлямі аб воду, даюць бяз толку дужа нурца — будзе моцны вецер і дождж. Кажуць яшчэ, калі грудзінка ўпечанага гусака з пачатку лістапада будзе мець мяса цемнаватага колеру, дык зіма будзе надта вострая, а калі мяса белае — шмат будзе сьнегу. Калі ўвосень дзікія гусі ляцяць нізка, то гэта паказвае на ранюю зіму.

Калі галубы нязвычайна позна варочаюцца з палеткаў да галубятні, або ў нязвычайную пару ляцяць да вады, купаюцца або ахарошваюцца — будзе доўгая слата і вецер. Затое калі дзікія галубы - сіньякі (Golumba Oenas) занадта грухаюць у лесе, дык напэўна наступіць надоўга добрая пагода.

На добрую пагоду ластаўкі (Hirundo) лятаюць высока, калі-ж ластаўкі абніжаюць свой палёт і носяцца як-бы над самаю зямлёю — гэта пэўны знак, што будзе дождж. Гэтак-жа сама, калі качкі, маючы навет пад бокам ваду, жыруюць на выгане, шукаючы чарвякоў, дык трэба спадзявацца *непагоды*.

Калі рана крук, (Corvus Corax), лятаючы высока ў паветры, выдае хрыплівае крумканьне, можна быць пэўным, што будзе цэлы дзень добрая пагода, навет, калі зранку і хмурна.

Зязюля (Cuculus canorus) калі прыляцела і закукавала, то будзе ўжо цёплая вясна. Многа кукуюць зязюлі — будзе цёплая вясна і лета. Гэтак сама заўважана, што калі зязюля вельмі доўга вясною кукуе навет да Пятра, то будзе неўраджай і дарагоўля.

Навет куры прадпазнаюць доўгую *слату і вецер*, калі чысьцяць сабе пер'е, як-бы смутныя, альбо вельмі рана пачынаюць крычаць, то хоцьбы і добрая пагода была, але калі ня зараз, то заўтра будзе ісьці дождж. Калі куры ня хочуць выходзіць з курніка—скора пачне падаць дождж; падчас дажджу куры ўцякаюць пад стрэху—скора перастане дождж, і калі куры бродзяць падчас непагоды, то будзе доўга ісьці дождж. Куры рана сядаюць на седала — будзе пагода заўтра, позна бродзяць пасьля заходу сонца — раніцай будзе дождж.

Вароны (Corvus cornix), высока лятаючы, не затрымліваюцца нідзе, многа крычаць, а пад вечар яшчэ больш паднімаюць крык—будзе дождж з ветрам. Гэтак сама, калі вароны дужа скачуць па выгане або па полі – будзе перамена пагоды.

Заўважана, што калі ў шчупака (Exox lucius) (разабраўшы яго), пузыр ад хваста шырокі, а пярэдні канец пузыра сьпічасты, дык напэўна зіма будзе вострая, доўга стаяць і рана пачнецца, і наадварот.

Перад *непагодаю* пчолы ідуць на зьбіраньне мёду навет з вячэрняй зарніцай; з ранку вельмі рана вылятаюць з вульля, чаго ніколі ня робяць падчас надходу добрае пагоды. Калі хутка мае быць дождж або вецер, пчолы зусім не ляцяць у поле і перад скорым дажджом пасьпяшаюць да вульля. Гэтак сама перад дажджом пчолы вельмі злыя і кусаюцца.

Амаль ня лепш за ўсіх прадказвае пагоду звычайная конская піяўка (Hacmopis vorax). Калі ўлетку мае быць дождж, а ўзімку сьнег, то піяўка, будучы ў бутэльцы з вадою, разьвівае свой клубок і вылазе, як можна вышэй наверх вады. Калі піяўка ляжыць на дне судзіны спакойна, як-бы здохла, гэта значыць, што ўлетку будзе надоўга *добрая пагода*, а зімою *сухі мароз*.

Перад *бураю з громам* і пярунамі ўжо за некалькі дзён піяўка выходзіць з вады, робіцца вельмі неспакойная і як-бы дрыгае ўсім сваім целам, нібы ў канвульсіі.

Мышы (Mus) голасна пішчаць, надойдзе дождж або вялікі вецер. Калі ўвосень на палетках з сваіх нораў выкідаюць высокія кучкі зямлі, то выпадуць вялікія сьнягі. Многа ўсюды мышэй з восені — знак, што будзе халодная зіма. Калі мышы ня робяць глыбокіх нораў — зіма будзе нявострая і наадварот.

Калі мурашкі (Formicidae Latr) падвышаюць свае мурашнікі і выносяць наверх свае яечкі, а самі з пасьпехам хаваюцца — будзе дождж. Калі мурашнікі ўлетку паднімаюць усё вышэй як звычайна — будзе раньняя і вострая зіма.

Заўважана, што як глыбока ўвосень мурашкі закопваюцца ў зямлю пад мурашнікам, так глыбока замерзьне зімою зямля. Улетку, калі мурашкі наточваюць высокія кучкі на сенажаці — хутка будзе доўгая пепагода і зальле сенажаці.

Калі ўлетку рой камароў (Nematocera) перад заходам сонца, як кажуць, таўчэцца над дарогамі — гэта на добрую назаўтра пагоду. Калі-ж перад заходам сонца камары, як-бы прападаюць— трэба чакаць дажджу.

Калі зімою ў лютым часамі можна спаткаць ад'жыўшыя камары, то трэба чакаць, што яшчэ ў марцы будуць маразы, а вясна будзе халодная.

Калі рагатая жывёла каля палудня ўцягвае паветра ноздрамі, ляжа адна адну, або свае ногі, тупае і грабе нагамі, дык можна быць пэўным, што будзе дождж, або бура.

Часта чуваць браханьне ліса зімою,—пэўная ад'знака, што будзе вострая зіма і вялікі сьнег.

Але лепш за ўсякую жывёлу паказвае зьмену пагоды звычайная зялёная жабка (Hyla arborca), якую можна трымаць у слоіку з вадою. Як яна доўга сядзіць над вадою на драбінцы або, прыклеіўшыся за шкло, так доўга будзе добрая пагода.

Калі жабка ўцякае да вады, ды яшчэ зробіць свае: „квак, квак", — зараз-жа будзе дождж.

Авечкі на полі падскакваюць, стукаюць занадта лабамі, — будзе дождж і бура.

Вось з гэтага і шмат чаго іншага можам заўважыць, што ў прыродзе ёсьць шмат сваіх баромэтраў, што не заўсёды вядома чалавеку, але прырода шмат чаго можа навучыць чалавека.

*Я. Х.*

---

# Чаму пладовыя дрэвы і ягадныя кусты бываюць бясплоднымі?

Адною з прычын бясплодзьдзя, або зусім малога ўраджаю яблынь і грушаў бывае *кепская* і *няўмелая* пасадка дрэваў, г. зн. калі дрэвы пасаджаны занадта глыбока, альбо на вельмі халодным грунце, дзе зусім блізка падходзіць грунтавая вада. Гэтаму можна пасобіць толькі *дрэнажом.* Другою прычынаю бывае худы грунт. Калі дрэвы цьвітуць у мягкую і харошую вясну, але як-бы бяз прычыны асыпаюць цьвет і завязь, гэта ёсьць першы прызнак, што дзераву недахват мінэральных складнікоў у грунце — фосфарных і паташу.

Вельмі клустая зямля гэтак сама шкодзіць пладаноснасьці. На гэтакім грунце дзерава расьце вельмі буйна, але ня робіць кароткаватых пладовых галінак.

На гэткіх грунтох толькі з часам, калі карэньне дзерава дойдзе ў сподні слой падгрунту, рост дзерава затрымліваецца і яно пачне пладанасіць. Трэба ўнікаць усялякіх азоцістых гнаеў, як чылійская салетра, пташыны гной, начное золата, і інш., а даваць у сад болей дрывянога попелу, тамасшляку або супэрфасфату. Часамі робяць падрэзку некаторых тоўстых каранёў дзерава ў зямлі.

Калі вельмі замнога падрэзаць галіны дзерава, асабліва ў сьліваў і вішань, то гэта выклікае буйны рост галінак, якія рэдка вісяць на сабе плады.

Дурны спасаб зборкі пладоў акалочваньнем, ад чаго ломяцца галінкі, зьмяншае ўраджай садоў з кожным годам.

Гэтак-жа сама мароз, які падскочыць падчас цьвету, і лішняя вільгаць (сырасьць) шкодзіць цьвіценьню і апыленьню. Адзінокія дрэвы таксама даюць слабыя ўраджаі.

Лішне глыбокая перакопка таксама, як і вельмі мелкая абработка грунту ў садзе, або высіленьне дзерава ў маладым веку — ўсё гэта часта робіць яго бясплодным. Нарэшце, вельмі частаю прычынаю бясплодзьдзя садоў бываюць шкадлівыя кузуркі, з якімі трэба бароцца ўсялякімі спосабамі.

Правідловаю абрэзкаю заўсягды можна змусіць дзерава даваць плады, нават гэткае, якое было бясплодным колькі гадоў. Трэба добра памятаць, што *кароткая абрэзка выклікае заўсёды буйны (сільны) рост, а доўгая абрэзка — пладавыя почкі.* Галінкі, якія ўпарта ня хочуць даваць пладавых почак, можна *надломваць* гэтак пасярэдзіне іх даўжыні, ад чаго яны пры дзераве пачнуць даваць почкі і плады. Часта ў старых дрэваў з вельмі густою кронаю трэба прарэдзіць або выразаць галіны так, каб кожная галіна дзерава магла карыстацца сьвятлом і сонцам.

Позная абрэзка буйных дрэваў памагае пладанашэньню. Робяць абрэзку, калі першыя лісты ўжо разьвіліся і атожылкі дзерава велічынёю ў 2—3 сантымэтры. Каб прысьпяшыць пладанашэньне, часта заходзіць патрэба прывіць пладовую галінку з почкаю.

Словам, старыя сады трэба прыводзіць у парадак: чысьціць кару дзерава, выпілоўваць сухія галіны, замазваць дуплё, і, галоўнае, абмаладжваць крону, г. зн., абрэзваць усе галінкі да $^{1}/_{3}$ і навет да палавіны іх даўжыні, што выпаўняюць увосень, як пачнуць жаўцець лісьцьця, або вясною, гледзячы, каб маладыя атожылкі (ваўчкі), якія зьяўляюцца пасьля маладжэньня, маглі яшчэ да маразоў дасьпець. Адначасна з маладжэньнем кроны трэба добра ўскапаць грунт навакола дзерава і таксама ўгнаіць зямлю.

Каб як мага ўзмацніць пладанашэньне дзерава, трэба ўкараціць тоўстае карэньне, каб разьвіць больш мачкаватыя (дробныя) карэньчыкі. Дзеля гэтага, вакол дзерава, на які мэтр ад яго, капаюць канаўку і пры гэтым перасякаюцца ўсе, якія трапляюцца, карэньні, а выкінутую зямлю замяняюць сьвежаю, дзе падмешваюць перагною або кампосту з фосфарнакіслымі і паташовымі гнаямі.

Вось-жа ўсе гэтыя меры памагаюць таму, што сады пачынаюць даваць карысьць гаспадару, але над усім трэба папрацаваць.

*Я. Х.*

## Як абвязваць маладыя яблыні і прышчэпы на зіму.

Здараецца часта, што селянін, засадзіўшы садок, пакідае пасьля маладыя дрэўкі на зіму бяз ніякай апекі і з гэтага поваду прыходзяць вельмі прыкрыя пасьледзтвы, дзеля таго, што зайцы зімой зьядаюць большасьць маладых галінаў і нават аб'ядаюць кругом дрэўца кару. Найчасьцей гэтакае аб'едзенае дрэўца вясной ссыхае, калі-ж якое з іх і прыжыве, то яблыня з яго будзе пакалечанай, бо ня будзе мець магчымасьці правідлова разьвівацца. Бяручы гэта пад увагу, мы бачым, якія з гэтага поваду можна мець страты, калі ня будзе дагляду. Каб забясьпечыцца ад зайцоў і вялікіх маразоў, якія таксама шкодзяць маладым яблыням і прышчэпам, трэба іх на зіму абвязваць калючымі яловымі, або сасновымі лапкамі (галінамі). Некаторыя абвязваюць маладыя дрэўкі саломай, але спосаб гэткі зьяўляецца недагодным, там, дзе расплоджваюцца мышы, якія падгрызаюць дрэўца, ад чаго яно вясной можа ссохнуць.

Калі няма магчымасьці абвязаць усяго дрэўца з галінамі, то абвязваюць толькі сьцябло. Абвязваньне сьцябла бароніць дрэўца ад уплываў шкадлівых зімовых і вясновых соўнечных праменьняў, выяўляючыхся ў тым, што ў маладых дрэўцах, дзеля раптоўнай зьмены дзеннай і начнай тэмпэратуры, замярзаець па соўнечнай старане кара і бліжэйшыя слаі, ад чаго старыя дрэвы забясьпечаны тоўстай карой.

Хто з сялян маладых яблыняў або прышчэпаў не абвязаў, пакуль яшчэ ня позна, можа зрабіць гэта цяпер. *К. Г.*

---

## Шкоднік канюшыны—(Cuscuta Epithymum var Trifolii).

У апошнія часы ўсюды, навет і ў дробных гаспадарках, пачынаюць сеяць канюшыну. Рэч гэта вельмі добрая і карысная, толькі бяда, што ня ўсе гаспадары ўжываюць, а часта і ня маюць патрэбных машын для чышчэньня насеньня канюшыны. Дык вось пасевы канюшыны вельмі многа церпяць ад сьметняковае травы — кускуты. Кускута, або папольску канянка, гэта бязьлістая ніткавідная трава, якая з насеньня, вельмі падобнага да канюшыны, хутка расьце і абкручваецца колькі разоў аб ладыгу канюшыны і сваімі, як-бы бародавачкамі высысае сокі з расьліны канюшыны, так што апошняя загадзя адмірае. Гэта расьліна (кускута) дзе ўжо зьявіцца на адным месцы, дык зараз-жа, па пэўным часе, пераносіцца на другое месца і мае здольнасьць разрастаючыся хутка, лучыцца разам і зусім ніштыць збор канюшыны. Калі кускуты ня зьнішчаць перад цьвіценьнем, то яна выдае многа насеньня, якога часьць выпадае на месцы, а пэўная часьць, будучы зьездзенай, напрыклад, зайцамі, птушкамі, альбо ветрам пераносіцца на суседнія палеткі. Насеньне кускуты не біцца ані жары, ані марозу, нават, будучы скормлена праз жывёлу і пасьля пападаючы ў гной, ня губляе свае здольнасьці прарастаньня. Вельмі кепска бывае, калі засьмечаную канюшыну пакідаюць на насеньне. Нярэдкія выпадкі, што ў пробцы канюшыны толькі ў адным кілёграме знаходзілі насеньня кускуты да пяцёх тысяч зярнят, пад той час, як усяго насеньня, напрыклад, чырвонае канюшыны ўходзіць ў кілёграм ад 320 тысяч зярнят. Як бачым, у большасьці выпадкаў, кускута пападае на поле праз пасеў канюшыны. Значыць, перш за ўсё, трэба пільнаваць, каб у канюшынным насеньні кускуты зусім ня было. Хаця, каб адтрымаць чыстае насеньне канюшыны, рэч вельмі трудная, ласьне бяз пэўных машын — трыераў. Насеньне кускуты і колерам і велічынёю вельмі падходзіць да канюшыны. Насеньне канюшыны, мае выгляд як-бы маленькае „ныркі“ жывёлы, а кускуты — бяз гэтае шчарбіны з боку. Вось дзеля чаго трэба вельмі ўважна глядзець, купляючы насеньне канюшыны, або старацца, як можна лепш, чысьціць канюшыну на асаблівых машынах. Лепшымі з гэтых машын будуць: спэцыяльная машына „Кускута бр. Рэбэр“, чысьцілка праф. „Тальмэйера“ з Альтэнбургу, або машына „В. Прэтша з Іены“.

Апроч таго, трэба старацца купляць насеньне канюшыны толькі ў земляробскіх складах, дзе павінны даваць гарантыю, што канюшына ня мае кускуты.

Што датычыць мераў барацьбы з кускутаю, дзе яна ўжо ўкаранілася, то дзеля гэтага ўжываюць розныя спосабы: месца, дзе знаходзіцца кускута, выкошваюць, пакуль кускута не адцьвіла і глыбока перакопваюць зямлю, каб выгубіць кускуту. Часта з пасьпехам месца, дзе расьце кускута, пакрываюць ячменнаю мякінаю на 5-6 сантымэтраў таўшчыні, праз якую канюшына прарастае, а кускута душыцца. Яшчэ лепш бывае, калі месца, заражанае кускутаю, пакрываюць мякінаю, сечкаю, або саломаю і выпальваюць агнём. У некаторых выпадках заражаныя месцы паліваюць рошчынаю мядзянага купарвасу (сіні камень—Cuprum sulfuricum crudum), якога бяруць адно кілё на пяць вёдраў вады.

Каб мець поўныя зборы канюшыны, ніколі ня можна высыпаць сьмяцьця з-пад канюшыны альбо аб'едкаў з жолабу ў гной, бо кускута не перагнівае, і ўсімі мерамі дбаць, каб насеньне канюшыны было чыстае. *Я. Х.*

## Гігіенічна-ратаунічы аддзел.

### Найлепш берагчыся, каб не захварэць.

Людзі так многа хварэюць ад таго, што ня ўмеюць, а нярэдка і ня хочуць берагчыся. Ніхто ня хочаць захварэць, бо хвароба адбірае здароўе і вымагаець для лячэньня многа коштаў, якіх пад дастаткам мала хто маець. Абераганьне сябе ад хваробы не каштуець амаль нічога, а кожны згодзіцца, што найлепш, па магчымасьці, зусім не хварэць. Дзеля таго, каб берагчыся, трэба ведаць, скуль прыходзіць хвароба і што яна такое? Амаль ня кожная хвароба паходзіць ад таго, што ў наш арганізм пранікаюць шкодныя бактэрыі. Бактэрыі выклікаюць хваробу. Шмат бактэрыяў заўсёды трапляюць у наш арганізм, але калі чалавек здаровы і сільны, то ён не хварэець, бо ўмее іх збароць рознымі спосабамі, захварэець чалавек ужо тады, калі ня будзе мець сілы іх сходаць, бо сам аслабеў, ці бактэрыяў пранікла на яго сілы зашмат. Ходзіць аб тое, каб перашкаджаць бактэрыям, а праз

тое самае і хваробе ўваходзіць у наш арганізм. Бактэрыі ёсьць усюды. Бактэрыі мы п'ем з вадою, ямо з стравою і ўдыхаем разам з паветрам. Бактэрыі гінуць тады, калі мы іх будзем варыць у кіпні ў працягу 20 мінут. Наступныя правілы трэба памятаць асабліва тады, калі істнуюць эпідэміі, г. знач. заразная хвароба пашыраецца, і шмат людзей ужо хварэець на яе. Ніколі падчас эпідэміі, а лепш і наагул ніколі ня піць сырое вады. Заўсёды трэба добра яе пераварыць. Вада мусіць варыцца ў чыста вымытым гаршку каля 20 мінут. Калі хварэюць дзеці, то здаровым, як і хворым, даваць піць ваду толькі пераваранаю. Найлепш зрабіць гэта так: Першы раз ваду варыць 20 мінут у добра закрытым гаршку, а затым, не адчыняючы гаршка, няхай вада сама шыбка астынець, так яна стаіць 24 гадзіны, а затым, перад ужыткам, зноў варыць яе 20 мінут. Такім спосабам забіваем ня толькі бактэрыі, але і іх споры, якія ад аднаразовага пераварваньня ня гінуць. Малако ад кароў у часе эпідэміі таксама трэба пераварваць, а калі карова ня пэўна, ці здаровая (маець хворы выгляд, кашляець, каросьлівая і г. далей), то малако кожны раз перад тым, як даваць дзіцяці, мусіць быць добра пераварана, інакш дзіця можа ад хворай каровы заразіцца якой хваробай.

У часе эпідэміі павінны ўсе прадукты дробна рэзаць у гаршчок, каб яны маглі добра ўварыцца. Ня можна тады есьці ніякае сырызны (гуркі, яблыкі, грушы, сьлівы, бручка і г. д.). Хворы, кашляючы і дыхаючы выдзяляець капелькі пары, у якой можа знаходзіцца шмат бактэрыяў. Калі здаровы чалавек дыхае такім паветрам, дык ён з заражанага паветра ўдыхаець у лёгкія хваробу і гэтак ёю заражаецца. Можна заразіцца, датыкаючыся да хворага. Дзеля гэтага найлепш будзе, калі пры хворым абціраецца якнайменш людзей, а ён будзець ляжаць у асобным пакоі. Мача, кал, ваніты, пляўкі і пот хворага могуць быць таксама заразныя і заражаюць ваду, ад якой будуць заражацца іншыя людзі, п'ючы яе. Трэба пільна сьлядзіць, каб хворыя не выпарожніваліся каля студняў, рэкаў і г. д. Кал і мачу трэба зьліваць у спэцыяльна выкапаныя ямы і пасьля таго зараз заліваць карболем, альбо так добра засыпаць зямлёй і пяском, каб мухі не садзіліся і не разносілі хваробы. У часе эпідэміі трэба нішчыць мухі, не пазваляць ім улятаць у пакой, шмаруючы вокны і сьцены такімі лякарствамі, якіх мухі ня церпяць (лаўровае масла), вылоўліваючы і выбіваючы іх. Тыя ямы, у якіх многа белых чарвей, з якіх пасьля вывядуцца мухі, паліваць газай.

Перад ежай кожны мусіць мыць рукі ў цёплай, добра пераваранай, вадзе. Рукі мыць з мылам. Той, хто пільнуець хворага і ходзіць за ім, не павінен варыць стравы і даваць есьці іншым асобам — здаровым. Ня можна здаровым людзям карыстацца порцем, адзежай і іншымі рэчамі, якімі карыстаўся хворы. Перад карыстаньнем трэба іх выварваць у кіпні 2 гадзіны. Хворыя павінны пляваць толькі да спэцыяльнае судзіны, выпаўненае пяском, аднак так, каб пясок не рассыпаўся. Калі хварэець дзіця, не пазваляць здаровым дзецям гуляць з ім, а нават і падыходзіць да яго. А яшчэ лепш выслаць здаровых дзяцей да сваякоў, якія сваіх малых дзяцей ня маюць і ня маюць зносін і сутычнасьці з хворымі. У часе эпідэміі ня трэба рабіць вечарын, танцаў і зьбірацца якнайменей, бо хворыя, пакуль аб'явяцца азнакі хваробы, выглядаюць, як здаровыя і ходзячы заражаюць здаровых. З хворымі ня можна цалавацца. Ня можна спаць з хворымі ў адным ложку, ня можна есьці з хворым з аднае міскі. Хворы чалавек мусіць мець усё асобнае, якое трэба добра выварыць пасьля таго, як хворы вычуняець. Трэба памятаць, што пры некаторых хваробах людзі пасьля выздараўленьня доўгі час могуць заражаць здаровых. Кніжкі і паперы, калі яны недарагія, найлепш спаліць, а калі больш каштоўныя ці шкада, як і іншыя рэчы, якія вываранымі быць ня могуць, бо папсуюцца, аддаць трэба для дэзынфэкцыі (абеззаражваньне) у дэзынфэкцыйнай камэры пры шпіталі. Як толькі хворыя выздаравелі, дык падлогу хаты паліць моцнай фармалінай (купіць у аптэцы) і, зачыніўшы хату, усім на некаторы час выйсьці, а прышоўшы добра вымыць падлогу. У кожным падазронным выпадку хваробы зварочвацца да доктара.

*Я. П.*

# Няхай жыве братэрскі саюз беларускіх, польскіх і літоускіх сялян!

## Барацьба з сухотамі.

Сьцверджана, што каля 95% людзей западаець на сухоты. Тыя людзкія арганізмы, якія зьяўляюцца кволымі, найчасьцей западаюць на гэтую хваробу. Для прыкладу можам сказаць, колькі-ж згінула з гэтай хваробы маладых яшчэ сілаў, людзей поўных энэргіі і творчасьці на ніве беларускай, як Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), Багдановіч, Зязюля, Сваяк, і іншыя, ня кажучы ўжо пра масы, дзе людзі гінуць тысячамі. Дык бачым, што і барацьба з гэтай хваробай не зьяўляецца вельмі лёгкай, асабліва там, дзе мала разумеюць наагул аб хваробах. У больш культурных краёх і там, дзе гігіена пастаўлена на вышыні свайго заданьня, колькасьць гэтай хваробы ёсьць меншая. Паказваюць нам гэта наступныя статыстычныя даныя:

На 10.000 насяленьня памёрла на сухоты:

| | ў 1924 годзе | ў 1925 годзе |
|---|---|---|
| Кракаў | 31,8 | 21,6 |
| Львоў | 32,0 | 27,8 |
| Лодзь | 28.0 | 25,0 |
| Бостон | 10,3 | 9,8 |
| Чыкаго | 8,3 | 8,3 |
| Новы-Іорк | 9,3 | 8,7 |
| Амстэрдам | 9,7 | 9,7 |
| Гаага | 8,9 | 8,7 |
| Бэрлін | 14,5 | 13,1 |
| Будапэшт | 39,8 | 29,1 |
| Парыж | 28,3 | 28,0 |

Цыфры гэтыя гавораць за самі сябе. Аднак, не зважаючы на труднасьці барацьбы, ўзяліся за гэта цэлыя народы і дзяржавы, якім у шматгадовай барацьбе з сухотамі ўдалося зьменшыць сьмяротнасьць ад гэтай хваробы бадай што больш як на палову. Барацьбу гэту з хваробай павінен весьці ня толькі хворы, але й здаровы, ня толькі доктар, але і кожны грамадзянін, вёска, воласьць, места, дзяржава.

Дзеля гэтага, спосабы барацьбы з сухотамі трэба падзяліць на паасобныя, дзе кожны можа сам бараніцца перад набаўленьнем гэтай хваробы, і грамадзкія, дзе прыймаець учасьце цэлае грамадзянства праз навучаньне і загады, якія і бароняць ад хваробы.

Спосабы паасобнае барацьбы з сухотамі:

1. Найважнейшая і першарадная забясьпека ад

хваробы — гэта прасторная кватэра і чыстая, куды пранікае сонца і сьвежае паветра.

2. Добра карміцца, асабліва мясам, клустасьцю, мучнымі прадуктамі і гародзінай. Вялікую пажыўчую вартасьць ды запраўленьне маюць: сыр, тварог, рыж, гарох, фасоля і боб.

Малако малыя дзеці павінны піць пераваранын, бо сырое малако можа разносіць хваробу.

3. Чысьціць штодзень і лячыць папсованыя зубы, бо добрае ўтрыманьне рота мае ўплыў на добрае траўленьне.

4. Перад кожнай ядой трэба вымыць рукі, мыцца штодня, разьдзяючыся да пояса і хадзіць часта ў лазьню.

5. Дзеля таго, што пры кожным замятаньні паўстаюць цэлыя хмары пылу, які ўносіцца ў паветра, што можна заўважыць, калі праз вакно падаець у хату прамень сонца, трэба перад замятаньнем сьпырскаць падлогу, а мэблі выціраць мокрай сьціркай. У большых местах, дзе ёсьць электрычнасьць, там ужываюцца спэцыяльныя апараты (пылакуры). Пыл гэты шкодзіць асабліва дзецям і старэйшым асобам, і апрача гэтага мае ў сабе ў 60% заразкі сухотаў.

7. Лажыцца спаць раней і заўсягды ў адну пару. Дарослы павінен спаць 7—8 гадз., дзеці даўжэй.

8. Паветра і сьвятло неабходныя для захаваньня здароўя. Ветрыць пакой, хату трэба штодзень. Старацца, каб ня было лішняй грамазды ў кватэры, сьмяцьцё і адпадкі ўсуваць як мага часьцей; у кутох, на паліцах і ўсякіх заканурках мусіць быць чыста, шыбы ў вокнах чыстыя.

9. Ня трымаць у хаце ніякай жывёліны, як парасяты, куры, гусі, авечкі, сабакі і інш. Яны спрыяюць разношаньню хваробы.

10. Трэба ўнікаць неахайных, хворых на сухоты людзей, асабліва, калі яны плююць проста на падлогу і не закрываюць рота пры кашлі. Не цалаваць іх у вусны.

Сухотнікі мусяць умець абходзіцца з сваёй флегмай, павінны сплёўваць у пастаўленыя дзеля гэтага або ў ношаныя пры сабе кішэнныя плявачкі. Гэтакія хворыя нікому ня будуць шкодзіць.

11. Як часта бывае, хворыя на сухоты людзі застаюцца ў хаце і няньчаць дзяцей. Яны якраз тут зьяўляюцца пераносчыкамі хваробы на здаровых дзяцей, якія з імі будуць у такім блізкім сужыцьці, дык ня можна пакідаць дзяцей пад апеку людзей з кашлем. Галоўнае, не пазваляць дзецям качацца па зямлі і падлозе, бо дзеці кладуць заўсёды брудныя рукі ў рот, а гэты бруд мае шмат усялякіх заразкаў розных хваробаў, а ў гэтым і заразкі сухотаў.

12. У памешканьні і варстатах, і наагул, дзе адбываецца праца, не павінна быць курна, не павінна быць пылу, які дразьніць абалонкі носа, дарогі адддыханьня і лёгкія. З гэтым пылам заразкі сухотаў трапляюць у лёгкія, і лёгкія псуюцца.

13. У вольны ад працы час кожны, па меры магчымасьці, павінен пасьвяціць гэты час на спацыр за местам, у агародзе, садзе, лесе і г. д.

14. Кожны чалавек час ад часу павінен скантраляваць сваё здароўе ў доктара.

15. Вылічаныя вышэй прыклады адносяцца да асобаў, якія жадаюць унікнуць хваробы.

Ня менш важныя будуць далей прыпісаньні рады, якія адносяцца да людзей хворых на грудзі.

*Т. К.*

# Корэспондэнцыі.

## Аб нашай жаноцкай долі.

Будучы вясковай дзяўчынай, хачу ў гэтай першай корэспондэнцыі троха пагутарыць аб нашай жаноцкай долі, тым больш, што ніхто навет і паўслова не напіша аб жыцьці вясковай дзяўчыны. Дык вось нашае жаноцкае жыцьцё, куды ў тысячу раз горшае, чымся мужчыны. Яшчэ поўбяды, калі вясковая жанчына ня замужняя. За гэты час свайго жыцьця яна, можна сказаць, толькі жыве-красуе.

Толькі будучы дзяўчынай, яна можа больш-менш распараджацца сваім, калі не матар'яльным, дык духовым жыцьцём. Толькі за гэты пэрыяд жыцьця яна можа ў волю пасьмяяцца, пажартаваць, пасьпяваць, пагуляць. Дый розныя непамысныя выпадкі ў гаспадарцы ня гэтак балюча прыймае да сэрца. Але прыходзіць пара ісьці замуж і ўся яе асабістая, духовая свабода канчыцца, астаюцца толькі голыя ўспаміны. Добра, калі мужык пападзе чэсны, сумленны і ня п'яніца, а калі не, дык для жанчыны расьцілаецца доўгі, поўны жыцьцёвых калючак, шлях. На яе плячох ня толькі спаганяецца звычайная злосьць і гнеў мужыка, але ляжыць уся цяжасьць штодзённага вясковага, галоднага, няпрыглядна жыцьця. Калі я зірну вокам на знаёмыя мне вёскі свае ваколіцы, як напрыклад Яновічы, Каплановічы, Бурачкі, дык усюды бачу адну толькі біяду дый непасільную працу жанчыны. Для вясковай жанчыны няма супачынку, няма сьвята. Кожны дзень яна павінна ўстаць да дня, выпаліць у печы, накарміць сям'ю, падаіць каровы, накарміць сьвіньні, а пасьля мусіць прымацца за хатнюю дакучлівую працу. Улетку, апрача гэтага, трэба яшчэ пасьпець і на поле з сярпом, ці на сенакос з граблямі. Надыйдзе восень, зіма, бярыся за кудзелю, глытай пыл, смакчы сусьлі аж да самай вясны. Ня дзіва, што за работай наша жанчына ня можа, як сьлед, паклапаціцца аб уласнай асобе, і ўласных дзецях. Вось такім парадкам праходзяць для вясковай жанчыны дні за днямі, тыдзень за тыднямі, цэлыя месяцы, гады і ўсё жыцьцё. Як бачыце, апрача работы, няма нічога радаснага і сьветлага ў жыцьці вясковай жанчыны. Сьвятло культуры ня можа даляцець да яе і абагрэць сваімі цёплымі праменьнямі. Амаль усе жанчыны мае валасьці няпісьменныя. Толькі ў некаторых вёсках, як напр. Яновічы, Бурачкі і г. д., дзе ёсьць інтэлігэнтныя, ці проста сьвядомыя сяляне беларусы, там і жанчыны прабуджаюцца з вяковага сну цемнаты. Шкада, што нашыя культурна-прасьветныя т-вы мала цікавяцца жыцьцём вясковых жанчын. Мне здаецца, што калі-б да нас, вясковых жанчын, прышлі з кніжкамі, ці добраю парадаю, дык гэтым самым памаглі-б скінуць з сябе кайданы вяковага сну цемры, ў якім мы знаходзімся і да сяньняшняга дня.

*Гэля Беларуска.*

## Няхай жыве аўтаномія краю!

### Аб выбарах у Раду м. Лгашкавіч.

Ужо ўперад былі пададз-ны весткі ў газэты аб выбарах у нашу мястовую раду, з якіх відаць было, што яны адбыліся даволі ўдала. Большасьць радных складалі Беларусы. Засталося толькі выбраць свайго адпаведнага бурмістра, але з гэтым пайшло шмат цяжэй. Спаміж трох кандыдатаў Рада выбрала за бурмістра тутэйшага мешчаніна сьвядомага Беларуса, гр. Л. Аўдыцкага. Гэтым выбарам усё места было вельмі задаволена, ведалі добра, што толькі свой чалавек здолае ўвайсьці і адчуць усе нашы патрэбы. Але, нажаль, выбар гэты не зацьвярдзілі ў Старастве, з тае прычыны, што некаторыя з радных быццам ня мелі права быць у Радзе дзеля таго, што зьяўляюцца рандарамі мястовае зямлі. Места наша мае шмат уласнай зямлі, якую Магістрат падзяляе на маргі і аддаець у арэнду жыхаром. Дык вось некаторыя з радных трымалі ў арэндзе гэткія маргі і дзеля таго іх выкінулі з Рады. Але кожны радны меў свайго заступніка, таксама выбранага агульным галасаваньнем. І вось калі яны заступілі выключаных, 7—XI г. г. у нас адбыліся другія выбары бурмістра. На гэты раз ізноў выбралі таго самага гр. Аўдыцкага.

*Д. Г.*

## Куток для мацярок.

### Дагляд за грудным дзіцём.

Калі маці хоча выгадаваць здаровых і моцных дзяцей, то яна павінна выкарміць іх сваім малаком (грудным малаком). Да 6 месяцаў нельга нічога даваць есьці дзіцяці, апрача матчынага малака. Каля 10-га месяца трэба спыняць кармленьне грудзьмі. Ляпей карміць грудзьмі да году. Ні ў якім разе нельга адымаць ад грудзей улетку, нават калі дзіцё будзе мець больш 10 месяцаў і нават болей 1 году. Улетку сьпёка аслабляе грудных дзяцей, і яны лёгка паддаюцца жыватовым хваробам.

У першыя месяцы жыцьця (ад 1 да 5-га) дзіцё карміць 6—7 разоў у пару (суткі). Уночы не карміць 6—8 гадзін (ад 12 ночы да 6 раніцы). Ад 5-цёх месяцаў трэба карміць ня болей, як 6 разоў у пару, а ад 6-га месяца толькі 5 разоў у пару. Кожны раз трэба даваць толькі адну грудзь (адзін раз—правую, другі раз—левую і г. д.). Перад кармленьнем і пасьля яго абмываць сасок чыста пераваранай вадой і выціраць чыстым ручнікам. Матчынае малако захоўвае дзіця ад хвароб, калі даваць малако ў свой час, разьмеркаваўшы кармленьне па гадзіньніку.

Падкармліваць кашкаю можна толькі пасьля 6-га месяца. Кароўе малако трэба разводзіць вадой, асабліва ў першыя часы падкармліваньня. Малако трэба заўсёды даваць пераваранным.

### Правільнае разьвіцьцё груднога дзіцяці.

Пры нараджэньні вага дзіцяці бывае каля $7^1/_2$—8 фунтаў, прычым гэтая вага праз 4 месяцы павялічваецца ў 2 разы, а к канцу 1 году першая вага павялічваецца ў 3 разы.

Правільная вага здаровага дзіцяці на 1 годзе жыцьця 22—23 фунты.

Вырастаньне зубоў праходзіць у здаровага дзіцяці без усякіх нядужаньняў і ідзе ў такім парадку:

На 7 — 8 месяцы выходзіць 2 ніжн. сярэд. секачы. На 8 — 12 месяцы выходзіць 6 верх. і ніжн. секач. На 12—16 месяцы выходзіць 4 пярэдн. мал. кутн. зуб. На 16 — 20 м-цы выходзіць 4 клы. На 20 — 24 м-цы выходзіць 4 задн. мал. кутн. зуб.

Здаровае дзіця падымае галаву ў 2 месяцы, сочыць вачыма за рэчамі ў 3 месяцы, трымае галаву ў 4 месяцы. пачынае хапаць рэчы ў 4—5 месяц., пазнае блізкіх ў 4 — 6 мес., самастойна сядзіць у 6 — 7 мес., стаіць у 10 мес., ходзіць у 12—15 мес., вымаўляе простыя словы ў 12—16 месяцы.

Сон здаровага дзіцяці моцны і доўгі—да 20 гадзін на 2-м годзе жыцьця.

Даўжыня цела навароджанага—50 сант. На працягу 3—4 месяцаў дзіцё вырастае на 3 сант. ў месяц, пасьля па 2 і па 1 сантымэтры. Пры канцы году здаровае дзіцё мае даўжыню 70—74 сантымэтры, к 2 гадом 80—85 сантымэтраў.

### ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Вінцусю Велічу ў в. Мервінах.** Каб магчы хлапатаць аб эмэрытуты, трэба мець дакумэнты аб папярэдняй службе. з якіх відаць было-б, колькі часу і дзе Вы служылі.

Калі такія дакумэнты маеце зьвярнецеся ў Жалеанадарожную Дырэкцыю ў Вільні (Wileńska Dyrekcja Kolejowa), Напішэце туды і прасеце аб прызнаньні для Вас права на эмэрытуру.

## Абвестка.

Віленскі Вокруг Рэвізійнага Саюзу Польскіх Земляробскіх Кааэратываў ладзіць 5—11 сьнежня сёлетняга году давучальны курс для бугальтароў Касаў Стэфчыка.

Лекцыі будуць вясьціся Інструктарамі Вокругу, пры чым праграма ахапляе:

1) Сыстэму рахунковасьці ў Касах Стэфчыка з паказаньнем прыкладаў.

2) Прынцыпы правідловае гаспадаркі ў Касах у сувязі з аналізам даных рахунковасьці.

3) Супрацоўніцтва Касы Стэфчыка з земляробска-гандлёваю і малачарскаю коопэратывай.

4) Прынцыпы коопэрацыйнага права (Закон аб Коопэратывах, статут Касу Стэфчыка, рэгуляміны).

5) Коопэрацыю ў земляробстве.

6) Рэвізійныя саюзы і гаспадарчыя Цэнтралі.

Курс мае на мэце побач з грунтоўнейшым азнаямленьнем учасьнікаў з рахунковасьцю Касаў Стэфчыка, таксама і тэорэтычнае падрыхтаваньне іх да далейшых этапаў працы над арганізацыяй дробных і сярэдніх земляробаў у розныя земляробскія коопэратывы.

На курс у першую чаргу будуць прымацца кандыдаты з ліку працаўнікоў Касаў Стэфчыка, азнаёмленых з рахунковасьцю Касаў.

Навука на курсе бясплатная.

Дзённыя кошты ўтрыманьня з начлегам каля 3-х злотых на асобу.

**Рэвізійны Саюз П. З. К. Віленскі Вокруг.**

Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.